## ВЕРА У СВАЁ ДЫ У СВАЕ СІЛЫ

Калі на дзень 14. 12. 1917 г. вялікая грамада дэпутатау і народу ехалі на Першы Усебеларускі Кангрэс, калі у дні 19. 2. 1918 г. правадыры Беларускае Цэнтральнае Вайсковае Рады уцякалі зь вязьніцы ЧК, калі у днях 19 і 20 лютага 1918 г. у сталіцы Беларусі, Менску, на сьцягох і транспарэнтах пісалі: «Няхай жыве вольная Беларусь», «За родны край, за вольную Беларусь!» ды калі у вялікі дзень 25-га Сакавіка 1918 г. абвяшчалася незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, тады, у тыя гарачыя дні, у сэрцах Беларусау пылала вялікая вера у сваё і вера у свае сілы, у здольнасьць да самастойнага жыцьця і развою.

Ад тых дзён прайшло шмат гадоу. Тым, каму рабілася горача й страшна ад вогнішча беларускае нацыянальнае любові, сыстэматычна ды шчодра марозілі шматлікія распаленыя беларускія сэрцы сьцюжай Сібіру ды стэпау, лілі на гэтае вогнішча цэлыя рэкі прапаганды, шчыльна зачынялі усякі даплыу беларускага паліва, зачыняючы школы, «рэфармуючы» мову, прэсу, літаратуру ды арганізацыі, раунапегла падліваючы тайком і адкрыта свае атруты у сэрца Беларуса.

Лютаму ворагу удалося толькі раськідаць беларускае вогнішча, але не удалося дагэтуль і ня удасца ніколі затушыць яго, бо гэты сьвяты агонь любові да Бацькаушчыны ды вера у сваё ня гасьне у сэрцах Беларусау. Ен гарыць ясным полымем у тых, якія жывуць пад небам вольных народау і самыя вольныя у сваіх думках, у другіх ён хістаецца, перамагаючы чужую атруту прыслужніцтва, у трэйціх тлее глыбока скрытай іскрай пад тэрорам, чакаючы вялікага дня «усенароднага, бурнага сходу», каб разгарэцца й злучыцца йзноу у вялікае вогнішча.

Матэрыяльныя раны Беларусі, якія вякамі наносяць ёй чужыя акупацыі, хутка гояцца на здаровым целе, але духовыя шкоды атруты чужога, дэнацыяналізацыя, забароны ды гнёт, угрызьліся глыбока у душу ды дэпpавуюць характар чалавека.

Ніводзін з большых народау Расейскай Імпэрыі не перажыу такога бязупыннага прыгону, як беларускі народ. Украінцы мелі нагоду разьвіць сваю нацыянальную працу пад Аустрыяй, Балтыцкім народам удалося утрымаць цягам пару дзясяткау год сваю незалежнасьць. Беларусь сьцераглі ворагі бязупынна!

Усё перажытае, усе правакацыі, прымусовыя вырачэньні свайго, ды накіданьне чужога пакінулі сваёу характары Беларуса.

Асьцярожнасьць Беларуса у ангажаваньні свае асобы, становішча рэзэрвы, гэта абставінамі жыцьця выкліканая інтэнсыуная рэакцыя самаабароны нацыянальнага арганізму перад усьцяжнай чужынецкай афэнзывай. Абаронная пазыцыя да усяго чужога, а толькі-ж чужым яго кармілі, перайшла у сталую рыску ягонага характару і скалечыла ягоны агульны давер, а гэтым самым і зацямніла давер у сваё, перашкаджаючы у усьведамляльнай працы.

Пачуцьці вартасьцяу нацыянальных і самавартасьці растуць і разьвіваюцца праз пазнаньне іх, праз параунаньне сваіх вартасьцяу з чужымі, ці з прынятымі вартасьцямі аб'ектыунага маштабу. Вера у сваё ды у сябе растуць на вартасьцях сваіх, нацыянальных.

На якіх-жа вартасьцях узгадоуваліся нашыя пакаленьні? Якія школы яны наведвалі, на якой культуры расьлі? На чужой, ужо гауно ды што раз больш на чужой! Шматлікія маюць з нас незабытыя перажыцьці першай лектуры творау Купалы, Коласа, Багушэвіча ці Танка. Колькі-ж ёсьць Беларусау, якія такога перажыцьця яшчэ ня мелі, якія выраcьлі, ня бачачы амаль ніколі друкаванага беларускага слова, падупадаючы пад уплывы чужацка--варожыя.

Моладзь, бязумоуна, ня вінавата такому стану рэчау, яна успрымае тое, чым заспакойваюць ейны голад пазнаньня. Каму мала далі, той мала мае; хто мала мае, той і мала зможа даць.

Ці у нас ёсьць што даць, ёсьць у нас сваё?--О так, ёсьць! Мы не жабракі й ня прыблуды. Мы собсьнікі й прауныя гаспадары свае зямлі, якая родзіць больш, чымся беларускі народ спажывае, унутры якое знаходзяцца ведамыя й няведамыя нутраныя багацьці.

Беларусы маюць сваю мову, прыгаство якое могуць тыя ацаніць, якія чулі, як гучаць іншыя мовы, хто чытау пісаныя ёю мастацкія творы. Беларуская мова, якой ворагі не давалі апошнімі вякамі разьвівацца, некалі фармавала мовы тых, якія яе выкінулі потым з двароу, школау і урадау.

Беларусы маюць сваю літаратуру, мастацтва, сваю культуру усіх галінау і ядро гэтай культуры захавау народ ад чужое плыні у народнай форме, да якога ад часу да часу знаходзяць дарогу толькі вялікія мастакі чужынцау і уплятаюць знойдзеныя пэрлы у сваю ткань, нам чужую. Поуны доступ да ядра й крыніцы беларускае культуры можа мець толькі Беларус, Беларус, вольны, як чалавек і як грамадзянін свае дзяржавы.

Найбольшым скарбам Беларусі, на якім павінна і можа сьмела Беларусь будаваць усё будучае й вялікае, гэта тып чалавека, які, міма усіх падзеяу на Беларусі, захавауся. Дзякуючы сялянскаму характару жыцьця, браку вялікай індустрыялізацыі, якая нясе цывілізацыю, а ня культуру, будучы у цесным дачыненьні з натурай, Беларус захавауся, як тып здаровага фізычна й духова чалавека, у якім ляжаць глыбока затаеныя, вялікія, жывучыя сілы й творчыя магчымасьці. Беларус, на працягу апошніх вякоу, ад утраты свае поунае незалежнасьці, ня выжыуся ані фізычна, ані духова, ён ня выдау яшчэ свайго максімум, бо яго ніколі не пакідала сьведамасьць, што гэта чужое, што глеба, у якую ён мае кідаць зярняты, ня зусім беларуская.

Ня боймася, што Беларус непрадуктыуны. Як-жа ён меу быць творчым, застаючыся вякамі у «калхозе» не на сваім! Да творчасьці трэба болей. У няволі паняволенымі духамі ня творыцца нінога новага й вялікага. Да творчасьці ня трэба матэрыяльнага багацьця, але волі духа ды асабовасьці. Гісторыя культуры дае на гэта шмат довадау.

Беларус, у бальшыні селянін ды жыхар малых гарадоу, застаючыся у цесным дачыненьні з натурай, бачачы Божы парадак сьвету ды цуды натуры, застауся рэлігійным і захавау сваю хрысьціянскую веру бацькоу. Высокая ступень этыкі й хрысьціянскае маралі ёсьць на Беларусі станам фактычным ды крыніцай духовае сілы народу.

Нашы ворагі вычуваюць наш, з дня на дзень растучы, патэнцыял затоенай фізычнай і духовай сілы. Таму мы чытаем у іхнай прэсе заклікі да свайго грамадзянства зьвярнуць дакладнейшую увагу на нас. Мы тымчасам зьвернем усю увагу на рост нашай нацыянальна - палітычнай сьведамасьці. На рост нашае веры у сваё й свае сілы. Сьведамасьць існаваньня сваіх вартасьцяу родзіць веру у сваё, веру у іхныя магчымасьці. Зь яе растуць свае сілы, узмацоуваецца самапачуцьцё й пэунасьць сябе.

Ад вялікіх дзён бурных гадоу 1917 і 1918, пайшлі мы мілёвымі крокамі наперад, набралі разгону, якога ніхто ня стрымае. Вера у свае сілы й энтузьязм, станоукасьць у барацьбе за волю й адбудову свае дзяржавы расьце й магутнее.

Усьведамленьне усяго сказанага накладае на нас абавязак, якога велічыня зьяуляецца прапарцыянальнай да ступені індывідуальнай сьведамасьці кажнага з нас.

Каб ухіліцца ад эвэнтуальных зложаданъняу і фальшывай інтэрпрэтацыі нашага пастуляту веры у свае сілы, хочам выясьніць. Мы ужо зацемілі, што беларускі народ быу і застауся рэлігійным і ён ведае, што вера чалавека толькі у свае сілы бязь веры у Бога не вядзе да перамогі. Навочную лекцыю гэтае праўды паказала нам наймалодшая гісторыя. Кажнага асабіста гэта справа ці ён у сваім жыцьці акцэнтуе больш максыму: «Маліся й працуй», ці «Працуй й маліся». Фактам ясным застаецца для кажнага Беларуса, што трэба і маліцца і працаваць, бо бяз Бога няма спору у працы.

Дык спары Божа у нашай працы і у нашай веры, веры у сваё ды у свае сілы.

Я. Т. Брат.

## БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

На захадзе нашай краіны, на раунінных пpасторах Беласточчыны, цягнецца аграмадны лясны масыу, ведамы ува усім сьвеце пад назовам Белавежскай Пушчы. Агульны абшар гэтай пушчы, разцягваецца на прасторы больш 100 тысячау дзесяцін і становіць аграмаднае багацьце фауны і флёры ды таксама нязьмерную колькасьць цэннага драунога матэрялу. Гэтае апошняе спрычынілася да таго, што на яе аддауна вастрылі зубы усе нашыя суседзі. Але не аб палітычным ці тэхнічным боку эксплятацыі пушчы нам давядзецца сяньня гутарыць. Мы займемся адным толькі бокам, зьвярынаю, якая робіць пушчу слаунаю не сярод купцоу ці тэхнікау, але сярод людзей навукі і ім падобных.

Паводле льэгэнды назоу «Белавежская Пушча» атрымала ад белай вежы, якая была выбудавана у недрах, пушчы на сутоках Лясны і Белай, дзесь у 13 стагодзьдзі, і якая захавалася нам да сяньня.

Багатая флёра дала магчымасьць існаваньню у Белавежскай пушчы шмат якім гатункам грубой жывёлы. Багацьце зьвярыны надзіла к сабе ваякау і князёу, аднак запіскі аб паляваньнях захаваліся толькі пачынаючы з 12 стагодзьдзя. Гэтак, пабывау тут і князь Уладзімір Манамах, які тагачасным звычаем, палюючы на грубую зьвярыну, як на тура, прадзеда нашага статку, мядзьведзя, зубра, лося, муштравауся у вайсковай штуцы, бо ведама, што тады гэтая катэгорыя зьвяра была вельмі небясьпечным праціунікам і упаляваньне гэтай «штукі» прыносіла яе пераможцы немалую славу.

У 14 стагодзьдзі пушча перайшла пад уладу Князёу Вялікага Княства Літоускага, калі князь Гэдымін заваявау яе разам зь Берасьцем і усёю Дрыгвінчынаю.

Больш падрабязныя даныя захаваліся з часоу Ягайлы і Вітаута, якія тут палявалі на конадні паходу на Крыжакоу, каб здабыць запасы мяса для сваіх арміяу. Увосень 1409 году было тут наладжанае вялікае паляваньне на зуброу, лосяу, мядзьведзяу, дзікау. Забітую зьвярыну салілі, складалі у бочкі ды гэтак пушчалі на Нарву, якою яны сплывалі у Віслу, каб пасьля быць злоуленымі і выкарыстанымі праз войска на ежу, якое пасоувалася праз Мазуры у бок Крыжацкіх валоданьняу. Таксама ведама, што лавілі дзікіх коней, якія вадзіліся тут, тады цэлымі табунамі. Коні гэтыя аб'яжджаліся на мейсцы спэцыяльнымі ездакамі, якімі адзначалася тады Вялікае Княства Літоускае, а пасьля перадаваліся для ужытку Літоускай коньніцы, якая як лёгкая сама па сабе, зусім добра іх выкарыстоувала.

Трэба адцеміць, што у 1426 годзе, калі на Польшчу напау мор, кароль Ягайла схавауся у пушчу разам з усім сваім дваром, а зь ім і Вітаут із сваім дваром, каб ад'ізалявацца ад насельніцтва і захаваць сябе і сваё акружаньне ад згубы. Да таго Ягайла гэтак упадабау сабе лясныя нетры Белавежы, што амаль кожную восень прыяжджау сюды і тут прабывау усю зіму, наладжваючы частыя паляваньні.

Але ня толькі на двары Ягайлы і Вітаута славілася пушча, яна была ведамая і далёка за межамі нашай краіны. Аб гэтым сьведчыць факт высыланьня Літоускімі князямі падарункау шмат якім манархам ці то жывой ці забітай зьвярыны, дзе яна лічылася асаблівай прысмакай.

Ад пары Вітаута пушча якраз і сталася мейсцам князеускіх паляваньняу, якія пасьля зьмянілі свой характар, яны ня былі больш вайсковымі муштрамі, а проста гульнёю, для уладароу і магнатау. Быу выбудаваны спэцыяльны павілён, дзе пасьля паляваньня адбываліся багатыя і каштоуныя бяседы, часта на'тдля замежных гасьцей. У пушчы былі зробленыя спэцыяльныя загарады, куды лясьнікі, перад паляваньнем, заганялі зьвярыну, а кароль і яго аточаньне із спэцыяльных альтанак, стралялі у наганяную зьвярыну. З увагі на вялікую колькасьць дзічы у тагачасных непраходных лясох, якімі была пакрытая уся наша краіна, із жывёлай ніхто тады ня лічыуся. Падчас аднаго з гэтакіх паляваньняу у 1627 годзе была забітая апошняя турыца у Эуропе ды хіба і у сьвеце.

Апошні з Ягайлавічау, Жыгізмонт--Аугуст, падчас зямельнай рэформы, якую ён правёу у Вялікім Княстве Літоускім, ахапіу ёю таксама і Белавежскую Пушчу. Тагды была устаноуленая сталая лясная ахова. Функцыі лясьнікоу пераходзілі з бацькі на сына, ствараючы гэтакім чынам фаховую абслугу Пушчы. Заданьнем гэтай аховы было апекавацца зьвярынаю і бараніць яе перад дзікім забойствам. Таксама да абавязкау аховы належала арганізаваньне каралеускіх паляваньняу. Лясьнікі мелі права паляваць на некаторыя больш лічбовыя і драбнейшыя гатункі зьвярыны, але павінны былі плаціць г. зв. хутраны падатак. Аднак пазьней гэты падатак быу скасаваны ды паляваньні лясьніком забароненыя.

Нелегальнае забіваньне зьвярыны каралася нават сьмерцю.

Вельмі цікавіліся паляваньнямі у Белавежскай Пушчы абодва Сасы, каралі польскія і Вялікія Князі Літоускія, Аугуст II і Аугуст III. У 1705 г. нават Аугуст II быу паранены мядзьведзям.

Вялікае паляваньне адбылося у 1744 г. за Аугуста III, на якім забіта аж 30 жуброу, а на яшчэ большым, у 1752 годзе, дня 27 верасьня, на якім прысутнічау сам кароль, з каралеваю і сынамі ды усім сваім дварom, забіта 42 жубры і 13 лосяу.

## ВОДГУКІ 25 САКАВІКА

Сёлетняе сьвяткаваньне 25 Сакавіка асабліва шырокім рэхам адбілася ў Амэрыцы. Сяньня падаем артыкулы із славацкай, амэрыканскай прэсы ў Амэрыцы.

Газэта «Славацкія Навіны» з Клэвэлянду, апрача заклiку да прыняцьця ўдзелу ў сьвяткаваньні 25 Сакавіка беларусамі і прывітаньня Прэм'ер Міністра БНР сп. Аўгеня Кахаоўскага з нагоды 12 Сакавіка-Сьвята незалежнасьці Славаччыны замясьцілі артыкул аб Беларусі, які падаем ніжэй.

### НАРОДНАЕ СЬВЯТА БЕЛАРУСАЎ

Беларусь гэта краіна, якая сваімі заходнімі межамі кранаецца Польшчы, Летувы, Лацьвіі і Эстоніі, а з паўдня мяжуецца з Украінай. Мае каля 18 мільёнаў насельніцтва, якое зьяўляецца часткова каталіцкім, а рэшта праваслаўным. Галоўным асяродзьдзем народнага і культурнага жыцьця быў Менск.

Калі перад канцом першае сусьветнае вайны ў 1917 годзе выбухла ў Расеі рэвалюцыя, Беларусы выслалі ў Менск 1872 дэлегаты з усіх канцоў свае краіны, з даручэньнем каб на агульным нацыянальным сходзе вырашылі будучыню свайго народу. Бальшавікі хацелі гэты народны сход разагнаць, каб запабегчы адарваньню Беларусі ад Савецкае Расеі. Беларусы-ж, наперакор усім перашкодам, дакаталі выбару Народнай Рады, якая складалася із 71 сябраў ды далі ёй паўнамоцтвы ад імя ўсяго Беларускага Народу вырашыць аб палітычным лёсе Беларусі.

Беларуская Народная Рада 25 Сакавіка 1918 году прагаласіла дзяржаўную незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларуская Народная Рэспубліка не змагла аднак абараніць сваю самастойнасьць, бо ўжо ў наступным годзе акупавалі краіну немцы, а пасьля бальшавікі, але Беларуская Народная Рада засталася на далей, а беларускі народ бачыў у ёй сваё законнае прадстаўніцтва. Беларусы ніколі не пагадзіліся з лёсам, які іх спаткаў, ніколі не зракліся свайго права на волю і самастойнасьць ды ніколі ня спынілі бараць бы за сваю незалежную дзяржаву.

Беларуская Народная Рада працавала на чужыне і сяньня мае сваю сядзібу ў Парыжы, дзе знайходзіцца яе Прэзыдэнт інж. Мікола Абрамчык. У мінулым годзе Прэзыдэнт наведаў Злучаныя Штаты і завітаў у Клэвэлянд, дзе мелі мы нагоду яго вітаць у Рэдакцыі «Словэнскіх Новін». Старшыня беларускага Ураду праф. Аўгень Кахаоўскі жыве цяперачы ў Нью Ерку і ў канцы лістапада 1950 году мы мелі нагоду зь ім гутарыць у Клэвэляндзе, аб чым мы пісалі ў Словэнскіх Новінах з 30 лістапада.

Грамада беларускіх эмігрантаў, якая трапіла пасьля вайны ў Клэвелянд заснавала сабе тут асобны Беларуска-Амэрыканскі Камітэт, які 25 Сакавіка ў 2 гадзіне па паўдні ў салі Украінскага Народнага Дому, 2253 Вэст 14 штр. ладзіў абход беларускага народнага сьвята.

Мы, Славакі, ўважна сочым за цяжкім змаганьнем беларускага народу за аднаўленьне самастойнай Беларускай Народнай Рэспублікі, і жадаем яму, каб пасьля цяжкага змаганьня мог абходзіць сваё сьвята Незалежнасьці ў сваёй вольнай бацькаўшчыне.

Таксама «Словак у Амэрыцы» з дня 27.3.1951 адзначыў 33 угодкі 25 Сакавіка. У кароткай зацемцы, з дня 29.3.1951 году даў артыкул пад загалоўкам:

«Багатая мастацкая праграма на сьвяткаваньні 33 угодкаў прагалошаньня Незалежнасьці Беларускай Рэспублікі».

Бруклін.

На Вялікдзень адбылося тут у Прэмер Паляс, сьвята з нагоды прагалошаньня незалежнасьці Беларускай Рэспублікі. Ужо мы аб гэтым сьвяце паведамлялі ў папярэднім нумары, а тут хочам каротка падаць праграму, якая была багатая пад кожным поглядам, а галоўна ў сваёй мастацкай часцы.

Праграма пачалася ў гадз. 4 па паўдні, пасьля багаслужбы ў тымчасовай недалёкай царкве, адкуль прысутныя, у колькасьці 500 асоб перайшлі ў успомненае памешканьне пры Суттэр Авэ., дзе ўрачыстасьць распачаў інж. Мікола Гарошка, а опэрная сьпявачка, Надзя Гродэ, засьпявала амэрыканскі Гымн. На пяніне акампаняваў ёй слаўны беларускі кампазытар, сп. Мікола Куліковіч. Пасьля інж. М. Гарошка прачытаў кароткі але сэрдэчны прывет пасьля чаго хор запяяў адпаведныя песьні. Галоўную прамову меў праф. Антон Адамовіч. Гэта была багатая прамова практыкаваная фактамі з жыцьця беларускага народу, а датарнавана да нашых амэрыканскіх абставінаў. Калі для прыкладу, Злучаныя Штаты прагаласілі незалежнасьць сваіх 13 калёніяў, каротка перад гэтым беларускі народ страціў сваю свабоду і папаў у няволю, у якой і да сяньня знайходзіцца. Прамоўца пераплятаў сваю мову паэзыяй ды аддаў чэсьць мучанікам за народную справу, пасьля чаго прысутныя адпялі беларускі нацыянальны гымн. Пялі з гэтакім запалам, што і мы былі ўзварушаныя, хоць і ня ведалі яго слоў.

Прывітаньне нашага рэдактара.

Прысутным быў і наш Рэдактар Сьціранка, які прыйшоў на сьвята із сваею мілаю спадарыняй. Наш Рэдактар прамовіў на тэму «Уваскрошаньня Беларускага і Славацкага Народаў». Гаварыў спачатку па славацку а пасьля па ўкраінску. Прысутныя прынялі яго прамову гучнымі воплескамі, калі сказаў што 33-ія ўгодкі прыпамінаюць яму 33 гадовы век нашага Спасіцеля, каторы быў укрыжаваны і каторы ўваскрос; гэтак-жа ўваскроснуць Беларускі і Славацкі Народы. Прывітаў таксама прысутнага Прэм'ер Міністра Беларускага Ураду на Выгнаньні, яго Эксцэленцыю Аўгена Кахаоўскага і дзякаваў яму за нядаўнае прывітаньне з нагоды 12 Сакавіка, якое прысланае было на наш часапіс ды падараваў яму кнігу плк. Стэгана Бонсала, у каторай піша і аб Беларусах. Прэм'ер Міністар шчыра падзякаваў за дар і выразіў надзею, што паўстане хутка вольная Славацкая Рэспубліка, што прысутныя падцьвердзілі гучнымі воплескамі.

Трэба адцеміць, што таксама было перакладзенае прывітаньне ад доктара В. С. Крайчовіча з Вашынгтону ды ад стг. Язэпа Яцковіцса, гэнэральнага сакратара Фэдэрацыі Усходня і Сярэдня Эўрапэйскіх народаў. Між прывітаньнямі было адно із СНР.

Вялікае ўсхваляваньне выклікалі шматлікія сьпевы і рэцытацыі, аднак найбольшымі воплескамі цешылася дэклямацыя маладога эмігранта, які пры сьвечцы ў цёмнай залі насьледваў вялікага змагара Каліноўскага ў вязьніцы ў Вільні ў 1863 г.

Тут нам прыйшоў на думку Прэзыдэнт Тісо, які падобны ліст пісаў з Братістоўскай вязьніцы перад сьмерцю 18 красавіка 1947 году.

Беларусы пасьля вялікіх намаганьняў дачакаліся сваей незалежнасьці 25 Сакавіка 1918 году аднак іхняя свабода ня трывала доўга, бо бальшавікі зьнішчылі іх дэмакратычных кіраўнікоў. Бяларусаў ёсьць каля 20 мілёнаў аднак больш за тры мілёны іх было вымардавана. Галоўным іх горадам ёсьць Менск, які мае 240 тыс. насельніцтва. Іх першым прэзыдэнтам быў П. Крэчэўскі, але бальшавікі яго выгналі, іх вялікім паэтам быў Янка Купала.

Беларусы гэта цяжка дасьведчаны, але вясёлы народ які мае глыбокія маральныя вартасьці.

Прыемна было, мто моладзь адзначылася багатымі песьнямі і дэклямацыямі ды прыйшла на вечар у поўным складзе. Іхнія дзяўчаты сапраўдныя прыгажуні, і амаль кожная выступала ў сьпеве ці паэзыі, усе апранутыя былі ў народныя строі. Мы правялі ў іх гурце Вялікоднае спаўдня, бо іх праграма закончылася аж паў восьмай вечара і была гэтакая багатая, што мы мелі з яе сапраўдную карысьць. Прывіталі мы іх ад імя Славакаў, а яны нам адузаемілі, пасьля гэтага спатканьня мы навязалі ўзаемныя прыяцельскія суадносіны, якія нам гэтак патрэбныя.

---

Найбольшы з забітых жуброу важыу 1450 хунтау, а найбольшы з лосяй 975 хунтау. Напамятку аб гэтым паляваньні паставілі абэліск, на якім былі выпісаныя дасягненьні паляваньня.

На гэтым паляваньні прысутнічала шмат замежных гасьцей. Загнана тады у нагонку аж 1000 акалічных сялян. Успамінаецца, што, пасьля заканчэньня паляваньня, шмат із забітай зьвярыны было раздана сялянству.

Пасьля разьдзелу Рэчыпаспалітай і захопу пушчы Маскалямі налічывалася 700 жуброу.

Але Кацярына II пачала раздаваць пушчу заслужаным сабе магнатам, дзякуючы чаму зрабіла пушчу аб'ектам прыватнай уласнасьці і дазволіла на падзел яе, што парушыла суцэльнасьць і шкодна адбілася на гадоулі.

З 1795 да 1807 году Пауночная Беласточчына папала у гэтак званую Новую Прусію пад нямецкую уладу, а сама пушча да Варшаускага Княства. На пагранiччу з пушчаю, па нямецкім баку, тварыліся часамі нават вялікія разбойніцкія банды, якія масава вынішчалі зьвярыну. Да таго анархія, і бязлад, які панавау тады у Варшаускім Княстве, давялі да пашырэньня бандытызму, дзякуючы яму згінула вельмі шмат зьвярыны. Колькасьць жуброу налічвалася, пасьля гэтага гістарычнага пэрыяду, усяго 300 штук.

Падчас напалеонскага паходу на Маскву, калі галоуныя сілы праходзілі трактам праз Язьвіны і Бранск таксама колькасны стан зьвярыны вельмі пацярпеу. Тады быу спалены драуляны палацык, які знайходзіуся у Белавежы.

У 1820 годзе цар Аляксандар I выдау «указ», забараняючы, высек стаячага лесу. Супакой, які пасьля гэтага запанавау у пушчы, прычыніуся да узросту зьвярыны. Гэтак у 1829 годзе колькасьць зуброу узрасла да 711 штук, а год пазьней было іх 722. Падчас паустаньня супроць Расеі у 1831 годзе у Пушчы хаваліся паустанцы, таму лік зуброу зьменшыуся да 657 штук за год.

Пасьля успакаеньня паустаньня цары пачалі прыбываць у пушчу. Мікалай II пабудавау тут сабе новы палац і ладзіу частыя паляваньні. Быу установлены стагодні пералік зуброу на пачатку зімы. Стражнікі, кожны у сваім абходзе, пералічвалі колькасьць жывёлы і рабілі адпаведную колькасьць зарубау на адпаведных кійкох. Кійкі гэтыя пасьля аддаваліся у Белавежу у бугалтэрыю, дзе бугалтэры і складалі статыстыку наяунасьці зьвярыны. Ясна, што гэткія аблічэньні ня былі дакладныя, але ужо на падставе іх можна хоць прыблізна зарыентавацца аб багацьці зьвярыны у пушчы. Гэтак у 1857 г. колькасьць зуброу даходзіла да 1898 штук, пасьля колькасьць іх зьніжылася да 528 штук у 1872 годзе. І тут, пэуна, неспакойная пара за цятага змаганьня нашага народу супраць расейцау, удзейнічала на спадак пагалоуя гэтай цэннай зьвярыны. Таксама шмат зьвярыны гінула ад дзікіх драпежнікау, як ваукоу, мядзведзяу, рысяу. У 1892 годзе стан зуброу абніжыуся да 500 шт..

Вынішчэньне драпежнікау таксама праводзілася у пушчы. Напрыклад, у 1870 годзе было забіта 1 мядзведзь, 5 рысяу і 40 ваукоу, а год пазьней 4 рысі, 1 мядзьведзь ды 63 ваукі.

Гэта, з другога боку, вынішчыла таксама цэннага зьвяра, хоць і драпежнага – мядзьведзья. Каля 1880 году ужо ня было у пушчы ані сталых мядзьведзяу, ані рысяу, а у 1890 г. забілі апошняга пераходнага мядзьведзя у ваколіцы.

Найбольшага росту пагалоуя зьвярыны дасягнута у 1910 годзе. Налічвалася у гэтую пару 800 зуброу, 10000 аленяу, 1000 данеляу, 120 лосяу, 8000 козау (сарнау) і 1000 дзікау ды іншай дробнай дзічы. Але надмерны узрост пагалоуя давёу да голаду у пушчы, таму неабходна было іх падкармліваць. Голад на траву спрычыніуся да таго, што шматлікая жывёла пачала абгрызаць мягчэйшыя гатункі дрэвау аж да вышыні двох і больш мэтрау чаму згінула шмат паросту.

Утрыманьне гэтак вялікай колькасьці жывёлау, ды ладжаньне паляваньняу каштавала царскаму ураду каля 300000 рублоу у год.

Голад у пушчы адбіуся перадусім на стане лосяу, як больш буйнейшыя зьвяры, павінны былі сабе шукаць іншых абшарау для прахарчаваньня. Да гэтага надыйшла нейкая пошасьць праз якую зьгінула таксама каля 3000 рознае зьвярыны.

У час 1-ае сусьветнае вайны стан зьвярыны у пушчы быу наступны: 727 зуброу, 59 лосяу, 10000 аленяу, 1500 данеляу, 5000 сарнау і 2225 дзікау.

Падчас вайны амаль уся зьвярына выгінула. Немцы налічвалі, пасьля акупацыі пушчы, 121 зубр. У гэткіх-жа адносінах зьменшылася пагалоуе іншае зьвярыны. Перад самым адыходам немцау, у часе бязуладнага хаосу, зуброу ужо налічвалася толькі 68 штук. Адступаючы, немцы вывязьлі частку у Нямеччыну.

Польская акупацыя захапіла 200 аленяу, 1 лося і некалькі сотак козау ды дзікау.

Бальшавіцкі паход у 1920 годзе ня шмат пашкодзіу зьвярыне дзеля свае кароткатрываласьці.

Па першай сусьветнай вайне польскаму ураду удалося вярнуць да Белавежы, зь Нямеччыны і Швэцыі, 4 зубры, якія да пачатку другое сусьветнае вайны размножыліся да 11.

Незадоуга да вайны, у пару польска-нямецкага зьбліжэньня, палякі наладзілі вялікае рэпрэзантацыйнае паляваньне для нямецкіх гасьцей, паміж якімі быу і маршал Гёрынг. Апошняму вельмі упадаба-

